СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.23, 17.31, 11.08;
Віцебск — 6.16, 17.17, 11.01;
Магілёў — 6.12, 17.20, 11.08;
Гомель — 6.10, 17.17, 11.07;
Гродна — 6.40, 17.44, 11.04;
Брэст — 6.37, 17.49, 11.12.

МЕСЯЦ:
Першая квадра 3 кастрычніка

ІМЯНІНЫ:
Ефрасінні, Сяргея, Германа, Пафнуція

# ЗВЯЗДА

8 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. чацвер, № 201 (21979)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## Саветнік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Іван Сцяпура азнаёміўся з сістэмай дзяржаўнага кіравання ў ЗША

Саветнік кіраўніка беларускай дзяржавы Іван Сцяпура выказаўся за радыкальнае рэфармаванне існуючай у рэспубліцы сістэмы ўлады. У эксклюзіўным інтэрв'ю «Інтэрфаксу» ён, у прыватнасці, адзначыў «немэтазгоднасць утрымання вялікіх, іншы раз залішне шматлікіх структур заканадаўчай і выканаўчай улады як у цэнтры, так і на месцах».

**Даведка «ІФ»:** саветнік кіраўніка парламента І. Сцяпура на днях вярнуўся з-за акіяна, дзе ў рамках ажыццяўлення праграмы тэхнічнай дапамогі ЗША дзяржавам СНД і па запрашэнню прэзідэнта Буша ён на працягу 3 тыдняў вывучаў сістэму дзяржаўнага кіравання ў ЗША. Пасля вяртання ў Мінск І. Сцяпура меў двухгадзінную гутарку са Станіславам Шушкевічам па выніках паездкі ў Амерыку.

У якасці прапановы саветнік выказаў ідэю скасавання існуючай сістэмы адміністрацыйна - тэрытарыяльнага падзелу рэспублікі па абласцях, раёнах і фарміравання новай, напрыклад, па акругах. У кожную акругу маглі б увайсці некалькі раёнаў, якія знаходзяцца паблізу, мяркуе І. Сцяпура, што «спросціць кіраўніцтва ў рэгіёнах і значна скароціць колькасць кіраўніцкага апарату».

Што датычыць рэформ цэнтральных органаў улады, саветнік Старшыні ўказаў на неабходнасць дзейнасці членаў парламента Беларусі выключна на прафесіянальнай аснове, не дапускаючы пры гэтым сумяшчэння дэпутатамі пастоў у заканадаўчых і выканаўчых органах кіравання, на вытворчасцях і ў арганізацыях.

І. Сцяпура выказаў сумненне ў тым, што яго прапановы знойдуць падтрымку большасці дэпутатаў рознага ўзроўню, паколькі, па словах саветніка, «асноўная іх частка— наменклатурныя работнікі — у гэтым не зацікаўлены».

**«Інтэрфакс».**

*(У бліжэйшых нумарах чытайце больш падрабязнае інтэрв'ю саветніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь І. Сцяпуры пра паездку ў ЗША).*

## Чым бліжэй да рынку, тым далей ад прагрэсу?

Жыхары вёскі Папаратнае Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці перайшлі на дзедаўскі спосаб нарыхтоўкі паліва на зіму. Рыдлёўкамі і рукамі летам яны выраблялі тарфяныя брыкеты. Высокі кошт гэтага паліва прымусіў людзей звярнуцца да прымітыўнага рамяства. Па тых жа прычынах Шклоўскі райвыканком Магілёўскай вобласці паставіў перад сельскімі Саветамі задачу на ўсякі выпадак назапасіць на зіму больш дроў. Дык што атрымліваецца: чым бліжэй да рынку, тым далей ад прагрэсу?

## «Без вады— і ні туды, і ні сюды»

**БАРАНАВІЧЫ. Ужо доўгі час у цэнтральнай частцы горада няма вады, хоць мясцовая ЦЭЦ даўно абяцала забяспечыць ёй усіх жадаючых. А жадаюць менавіта ўсе, таму што без вады, як сцвярджае народная мудрасць, «і ні туды, і ні сюды».**

**Што вада ў горадзе ёсць, сведчаць фантаны, якія могуць раптам забіць з-пад зямлі. Нядаўна такая карціна назіралася ў адным з двароў па вуліцы Леніна.**

## Сумесная нарада Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

6 кастрычніка ў парламенце Беларусі прайшла сумесная нарада Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Прэзідыума Савета Міністраў рэспублікі. Пасяджэнне адкрыў і вёў старшыня парламента Станіслаў Шушкевіч.

Заслуханы паведамленні старшыні праўлення Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча, першага намесніка міністра фінансаў Мікалая Румаса, намесніка Старшыні Савета Міністраў, старшыні Дзяржаўнага камітэта па эканоміцы і планаванню Сяргея Лінга, старшынь парламенцкіх камісій Рамана Унучкі, Дзмітрыя Булахава, Леаніда Козіка, Уладзіміра Леўчыка.

Абмеркаваны праблемы фінансавай і цэнавай палітыкі. Прааналізаваны ход выканання Дзяржаўнага бюджэту на 1992 год і дынаміка заработнай платы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі. Асаблівая ўвага звернута на тэрміновую неабходнасць пэўных захадаў па сацыяльнай абароне найменш забяспечаных слаёў насельніцтва. Разгледжана канцэптуальная мадэль законапраектаў аб прыватызацыі і раздзяржаўленні маёмасці, а таксама прынцыпы рэфармавання мясцовага самакіравання. Узнімаліся і іншыя пытанні, што маюць значную грамадска-палітычную і сацыяльна-эканамічную актуальнасць.

Па абмеркаваных пытаннях акрэслены і ўзгоднены пазіцыі кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў. Дасягнута прынцыповая дамоўленасць аб далейшай больш цеснай каардынацыі работы прэзідыумаў парламента і ўрада. Прызнаны мэтазгоднымі і рэгулярныя сумесныя нарады па надзённых пытаннях дзяржаўнага жыцця. Наступную запланавана правесці ў Савеце Міністраў рэспублікі.

**Прэс-служба ВС РБ — БЕЛІНФАРМ.**

**Дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання**
**Старшыні Вярхоўнага Савета ШУШКЕВІЧУ Станіславу Станіслававічу**
**Старшыні Савета Міністраў КЕБІЧУ Вячаславу Францавічу**
**Старшыні Кантрольнай палаты САКОВІЧУ Васілю Андрэевічу**

## «АБ БЕЗЗАКОННАСЦІ Ў ЭВА «ЗАДНЯПРОЎСКАЕ»

На працягу шэрагу гадоў, шмат разоў пераконваючыся на прыкладзе ЭВА «Задняпроўскае» Аршанскага раёна ў нежаданні дзяржаўных органаў рэспублікі захоўваць законы і дзяржаўную дысцыпліну і, больш таго, у процідзеянні іх захаванню, мы, калектыў аб'яднання, выказваем свой рашучы пратэст і гнеў з нагоды беззаконнасці і эканамічных злачынстваў, учыняемых генеральным дырэктарам Савіцкім Ю. Г. і яго падручнымі. Бяздзеянне і процідзеянне захаванню законаў з боку службовых асоб вымушаюць нас да прыняцця крайніх мер.

Сутнасць пытання:

4 жніўня 1992 г. адбылося пасяджэнне савета Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь з парадкам дня: «Аб про-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Пастанова Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва

### Аб павышэнні заработнай платы педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу, асноўных катэгорый спецыялістаў аховы здароўя, фармацыі, культуры і мастацтва, асобных катэгорый работнікаў іншых галін, якія фінансуюцца з бюджэту

У мэтах выканання пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 верасня 1992 г. № 587 Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці з 1 верасня 1992 г. каэфіцыенты павышэння ставак заработнай платы і службовых акладаў:

1. 1. У размеры 1,5:

настаўнікаў усіх спецыяльнасцей, выкладчыкаў, выхавальнікаў, прадугледжаных у табліцах 1, 2, 5 дадатку № 3 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

кіраўнікоў (дырэктар, начальнік, загадчык) навучальных устаноў, філіялаў, іх намеснікаў (па вучэбнай, вучэбна-выхаваўчай, выхаваўчай, вучэбна-вытворчай рабоце, вытворчаму навучанню, рабоце з замежнымі навучэнцамі), мастацкага кіраўніка харэаграфічнага вучылішча, кіраўнікоў дзіцячых дашкольных устаноў, старшых майстроў, майстроў вытворчага навучання, прадугледжаных у табліцах 3, 4, 5, 6, 7, п. 2 заўвагі да табліцы 8, 9, 10, 12 дадатку № 3, у табліцах 1, 2 дадатку № 27 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

прафесарска-выкладчыцкага саставу, кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў і іх філіялаў (рэктар, дырэктар філіяла, першы прарэктар, прарэктар па вучэбнай, навуковай рабоце, дэкан), прадугледжаных у табліцах 1, 2 дадатку № 5 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

кіраўнікоў (дырэктар, намеснік дырэктара) рэспубліканскага, абласных і Мінскага гарадскога інстытутаў удасканалення настаўнікаў, Рэспубліканскага вучэбна-метадычнага цэнтра адукацыі, прадугледжаных у табліцы 11 дадатку № 3 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

урачоў усіх назваў, правізараў, прадугледжаных табліцамі 1, 4 дадатку № 2 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

кіраўнікоў устаноў аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння і іх намеснікаў (урачоў), для замяшчэння пасад якіх патрабуецца медыцынская адукацыя, кіраўнікоў аптэчных устаноў (аптэк), аптэчных баз і складаў, аптэчных пунктаў I катэгорыі (правізараў) і іх намеснікаў (правізараў), для замяшчэння пасад якіх патрабуецца фармацэўтычная адукацыя, прадугледжаных табліцамі 3, 5 дадатку № 2 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

навуковых работнікаў усіх назваў, канструктараў і тэхнолагаў, кіраўнікоў навуковых арганізацый, устаноў і іх філіялаў (дырэктар, начальнік, загадчык), намеснікаў па навуковай рабоце, прадугледжаных у табліцах 2, 3 дадатку № 6 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

ставак пагадзіннай аплаты працы работнікаў, занятых ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, за правядзенне вучэбных заняткаў, размераў аплаты працы медыцынскіх работнікаў, якія абслугоўваюць спартыўныя спаборніцтвы і зборы, аплаты працы ўрачоў-кансультантаў ва ўстановах аховы здароўя, прадугледжаных дадаткамі 4—6 да пастановы Дзяржкампрацы ад 14.05.92 г. № 24;

трэнераў і спартсменаў-інструктараў нацыянальных каманд, трэнераў-выкладчыкаў па спорту, кіраўнікоў дзіцяча-юнацкіх спартыўных (спартыўна-тэхнічных) школ, спецыялізаваных дзіцяча-юнацкіх школ алімпійскага рэзерву, спецыялізаваных дзіцяча-юнацкіх спартыўна-тэхнічных школ, вучылішчаў алімпійскага рэзерву, школ вышэйшага спартыўнага майстэрства, прадугледжаных у табліцах 1, 3, 7 дадатку № 7 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

грашовае ўтрыманне бацькам-выхавальнікам дзіцячых дамоў сямейнага тыпу.

1. 2. У размеры 1, 3:

выхавальнікаў (уключаючы выхавальнікаў інтэрнатаў) і іншых педагагічных работнікаў, кіраўнікоў, не названых у пунктах 1. 1, 2 і прадугледжаных у табліцах 1, 2, 3—9 дадатку № 3, у табліцах 1, 2 дадатку № 27 да пастановы Дзяржкампрацы ад 29.02.92 г. № 9;

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## АСЕННЯЯ ПАРА



**Тры тысячы тон агародніны вырасцілі сёлета ў саўгасе «Маладая гвардыя» Брэсцкага раёна. З ранняй вясны і да позняй восені адпраўляюцца спажыўцам усемагчымая зеляніна, памідоры, агуркі, кабачкі, пацісоны.**

**Зараз у разгары ўборка морквы і капусты. Тэмпы работ маглі б быць вышэйшымі, каб не падводзіла брэсцкая агародніная база «Гарплодаагародніна-гандаль». З заяўленых 670 тон яна прыняла ўсяго 270 тон качаноў. Такія адносіны да мясцовых працаўнікоў работнікі базы праяўляюць не ўпершыню. У пачатку лета, калі на палях саўгаса паспеў добры ўраджай капусты ранніх сартоў, забеспячэнцы базы завозілі яе з далёкага Казахстана.**

**Гэтак жа і з агуркамі. База наадрэз адмовілася прымаць іх у гаспадаркі, і таму ў ліпені—жніўні ў магазінах агуркоў амаль не было. Давялося дзесяць тон гэтай прадукцыі скарміць жывёле.**

**Саўгас знаходзіць новыя рынкі збыту, у тым ліку і за мяжой. Разлічваецца ж за немабільнасць «Гарплодаагароднінагандлю» даводзіцца брэсцкім пакупнікам.**

**НА ЗДЫМКУ: на ўборцы морквы добра працуе агароднік Людміла МАСЛЯК.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛІНФАРМ).**

## Бясцэнны падарунак «Лідэра» ўладальнікам камп'ютэраў

Калі ў вас ёсць хатні іграфы камп'ютэр і пэўная колькасць іграых праграм, то вам проста не абысціся без беспрэцэдэнтнага каталога з апісаннямі больш як трохсот гульняў на самы розны густ. Першая ў рэспубліцы навінка падобнага «жанру» выпушчана ў Оршы малым прадпрыемствам «Лідэр» і распачала сваё трыумфальнае шэсце па кіёсках «Саюздруку». Трэба думаць, што спажыўца прывабіць не толькі прафесіянальна пададзеная інфармацыя, але і выдатнае афармленне новай кнігі. Што датычыцца кошту, то ён, зразумела, не ідзе ні ў якое параўнанне з коштам вашага камп'ютэра.

## ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПОРАХ У ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ

Паведамляем папярэднія вынікі падпіскі па стану на 1 кастрычніка 1992 года. У табліцы даюцца толькі тыя выданні, па якіх закончана апрацоўка даных на пачатак кастрычніка:

«Звязда» — 52.673
«Народная газета» — 99.773
«Советская Белоруссия» — 120.106
«Рэспубліка» — 6.290
«Белорусская нива» — 25.568
«7 Дней» — 35.340
«Знамя юности» — 16.435

А вось як выглядае падпіска на «Звязду» ў розных абласцях рэспублікі паводле даных на 1 кастрычніка:

Брэсцкая вобласць — 3.944
Віцебская вобласць — 9.666
Гомельская вобласць — 10.904
Гродзенская вобласць — 6.317
Мінская вобласць — 13.841
Магілёўская вобласць — 6.426
Горад Мінск — 1.575

Мы наўмысна не будзем каменціраваць першую табліцу, аднак можна сказаць, што, насуперак змрочным прагнозам, многія газеты рэспублікі ўпэўнена набіраюць колькасць падпісчыкаў.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АБ'ЕКТАМ ПАЛІТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЫ НА БЕЛАРУСІ

### Сумесная заява выканкома Партыі народнай згоды і рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў

**У апошні час у грамадскім жыцці Беларусі — праз сродкі масавай інфармацыі, на розных сходах, канферэнцыях, мітынгах — зноў узнімаецца моўнае пытанне. Па ініцыятыве прыхільнікаў Партыі камуністаў Беларусі—з аднаго боку, і Славянскага сабора—з другога, выстаўляюцца патрабаванні скасавання Закона аб дзяржаўнай мове і ўвядзення ў Беларусі дзяржаўнага двухмоўя.**

Мы супраць гвалтоўнага пераводу ўсяго грамадства на беларускую мову. Кожны чалавек павінен мець права карыстацца сваёй роднай мовай, прытрымлівацца нацыянальна - культурных традыцый свайго асяроддзя. Але дзяржаўныя ўстановы павінны ў вызначаны законам час пераходзіць на дзяржаўную мову.

Сёння ва ўмовах Беларусі гэта адна з галоўных гарантый яшчэ кволай беларускай дзяржаўнасці, суверэнітэту рэспублікі. Нацыянальна-культурнае адраджэнне — першы крок да ўздыму агульнай культуры насельніцтва Беларусі. А ў гэтым зацікаўлены ўсе грамадзяне, як беларускамоўныя, так і рускамоўныя.

Народ Беларусі мае зараз шмат праблем: эканамічных, сацыяльных, палітычных. Спробы дадаць да іх канфрантацыю ў грамадстве па моўнаму пытанню заслугоўваюць асуджэння. Але самае горшае ў тым, што ініцыятары кампаніі разлічваюць знайсці падтрымку ў войску, а таксама за межамі Беларусі.

Гэтай заявай мы хацелі б папярэдзіць суайчыннікаў, нашых калег вайскоўцаў і цывільных: мова не можа і не павінна падзяліць народ Беларусі, не можа і не павінна ўскладніць адносіны паміж народамі.

ЗВЯЗДА-93

## Галоўнай вуліцай з аркестрам крочаць нашы Архімеды. Куды вы, мілыя?

Сёння галоўны паказчык сапраўднага клопату аб некім ці аб нечым, у тым ліку і аб навуцы, — грошы. Калі ты іх даеш— значыць, клапоцішся. Пра тую ж навуку. Калі не — не прымазвайся, браце, нават калі ты з дома, што на плошчы Незалежнасці.

Ведаеце, няма ахвоты пра сумныя рэчы гаварыць яшчэ і замагільным тонам. Мо таму, што да канца не верыцца, каб наш урад узяў і проста так аддаў цэлую галіну на з'ядзенне рынку. І не нейкую там другарадную галіну, а тую, якая вызначае перспектывы, тэмпы і канкрэтныя шляхі развіцця іншых, — усіх без выключэння.

Толькі б паспець. Толькі б паспець спыніць абвал нашага навуковага гмаху, які будавалі так доўга рукамі і галовамі ўсіх братніх народаў, таксама з вялікай цяжкасцю знаходзячы грошы. Хвалі скарачэнняў ужо не адзін раз накрылі сёлета інстытуты, у сем'ях нядаўніх навуковых супрацоўнікаў лічаць апошнія рублі на бохан хлеба і адмаўляюць дзецям у самым неабходным. Прабач свайго бацьку, маленькая дачка ўчарашняга загадчыка лабараторыі, што ён не можа прынесці табе жаўтабокую дыню. Заўтра твой тата, пераадолеўшы пэўны псіхалагічны бар'ер, уладкуецца да лепшых часоў на нейкую работу і прыйдзе да цябе з гасцінцам.

А што ж навука? Ад многіх інстытутаў сёння застаўся толькі кадравы «каркас». Той мінімум, які неабходны, каб захаваць важнейшыя напрамкі даследаванняў. Калі не будуць знойдзены асігнаванні, каркас гэты разваліцца. Ад дзвюх акадэмій, ад беларускай навуковай школы, з якой даўно лічацца ў свеце, застанецца хіба што пыл. Не трэба да таго часу выбіраць прэзідэнта рэспублікі. Бо любы прэзідэнт павінен будзе пасля гэтага ўтапіцца.

Наступны год стане рашаючым. Мы з вамі, паважаныя чытачы, з'явімся сведкамі таго, як навука або перастане існаваць у нашым цывілізаваным грамадстве, або, пахварэўшы, паправіцца.

Праўда, «Звязда» не збіраецца займаць пазіцыю сузіральніка. Навукоўцы могуць разлічваць на нашу актыўную дапамогу.

А таму — пра што мы збіраемся пісаць у 1993 годзе?

Вельмі не люблю, як загадзя расказваюць сюжэт кнігі Чэйза ці кінастужкі пра Марыяну. Увогуле, любы сюжэт. Калі сярод падпісчыкаў ёсць аднадумцы — не чытайце далей артыкул. Газета таксама павінна быць кожны дзень адкрыццём. Наступныя некалькі абзацаў — для тых нашых шчырых сяброў, хто лічыць, што верыць журналісту на слова — усё роўна, што цыгану ў базарны дзень. І іх гаспадарчы падыход зусім зразумелы. Перш чым грошы «на кон» — пакажы, дзядзька, тавар.

Уважлівы чытач убачыў, што «Звязда» сваімі дзвюма публікацыямі (нумары за 20 жніўня і 19 верасня) як бы ўзяла на сябе ролю пасрэдніка ў спрэчках вакол «саркафага» на Чарнобыльскай АЭС. Нам уяўляецца, што справа не столькі ў розных навуковых падыходах да новых фактаў, колькі ў рознай ступені маральнасці ўдзельнікаў дыскусіі. Апошнія навіны тут такія: Украіна заключыла пагадненне з французамі — тыя бяруцца карэнным чынам ці то адрамантаваць стары «саркафаг», ці то зрабіць новы. Нашы навуковыя кансультанты пакуль што не ведаюць канкрэтных дэталей дамоўленасці. У наступным годзе, калі на аб'екце «Укрыццё» пачнуцца работы, мы раскажам аб праекце больш падрабязна.

Навуковыя аспекты чарнобыльскай аварыі хвалююць грамадскасць па цалкам зразумелых прычынах. Разлічваем, што цыкл матэрыялаў па гэтай праблематыцы, які мы прадоўжым у наступным годзе, прынясе пэўную карысць нашым чытачам. Спектр тэм будзе досыць шырокі. Ужо сёння атрымана згода дырэктара інстытута глебазнаўства І. Багдзевіча на падрыхтоўку артыкула, які зацікавіць не толькі сельскіх жыхароў. Размова пойдзе пра сістэму агратэхнічных мер для атрымання «чыстай» прадукцыі на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях.

Навука пакладзена на лапаткі. І ўсё ж застаецца навукай. Гартаю сваю запісную кніжку. Распрацаваны фотатэрапеўтычны метад лячэння рака, які ў эксперыментах на жывёлах даў ад 60 да 100 (!) працэнтаў вылячэння. Зараз ідуць клінічныя выпрабаванні. Іх вынікі праспеюць якраз на той перыяд, пра які мы з вамі гаворым.

Створаны сарбент для ачысткі раствораў ад іонаў цэзію і не менш эфектыўны сарбцыённы матэрыял для вывядзення цяжкіх металаў са сцёкавых вод. Атрыманы пептыдныя аналагі, якія рэгулююць згусанне крыві і тэмпературу цела, уплываюць на працаздольнасць і нават выклікаюць эфект абязбольвання. Вынайдзены дзейсны метад дыягностыкі пачатковай стадыі паталогіі шчытападобнай залозы...

Распрацоўка штучнага інтэлекту, пра першыя вынікі якой мы нядаўна расказвалі. Стварэнне робата — асістэнта вадзіцеля (чытай: аўтапілота), які не мае аналагаў у айчыннай (у шырокім сэнсе) тэхніцы і з'явіцца незаменным у зонах жорсткага кантролю. Новае з гісторыі беларускай эміграцыі (як быццам мы нешта ведалі дагэтуль). І вельмі «старое» з гісторыі беларускай культуры, бо, аказваецца, яе самабытнасць трэба даказваць. Як і тое, што ў Скарыны, магчыма, не тое імя, да якога нас прывучылі, іншая дата нараджэння і сімволіка яго гравюр таксама азначае зусім іншае.

Пра ўсё гэта — у рэпартажах надыходзячага года.

Беларускія вучоныя за мяжой. Лёс прэзідэнта. Таго, што пайшоў у добраахвотную адстаўку, і таго, што ўзваліў на свае плечы непамерны па сённяшнім часе клопат. Наогул, лёсы людзей навукі...

Але якім бы тоўстым ні быў журналісцкі блакнот з адрасамі навуковага пошуку і прозвішчамі сучасных Архімедаў, чытач ведае больш. І мы былі б удзячныя за пісьмы або тэлефонныя званкі, за візіты да нас у рэдакцыю навукоўцаў і проста чытачоў. З артыкуламі аб надзённым, з прапановамі і просьбамі, заўвагамі і пажаданнямі. З вашым бачаннем ролі навукі ў жыцці маладой краіны і шляхоў выйсця з сапраўды складанай сітуацыі.

Паўторымся: навука ляжыць на лапатках. Але хто ж тады зверху? Ніхто. Усе ўнізе. Усе мы.

Але яшчэ варушымся.

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ,**
**навуковы аглядальнік «Звязды».**
**Тэл. 32-40-92.**

## Да ведама тых, хто праводзіць у рэспубліцы падпіску на «Звязду»!

**З мэтай данесці роднае слова да як мага большай колькасці жыхароў рэспублікі рэдакцыяй газеты прынята рашэнне аб прэміраванні паштальёнаў і работнікаў «Саюздруку», якія будуць сёлета весці падпіску на «Звязду». Памер прэміі — 5 працэнтаў ад агульнага кошту прынятай падпіскі. Выплату па выніках падпіскі будуць рабіць арганізацыі, у якіх працуюць распаўсюджвальнікі друку. Туды паступяць адпаведныя сродкі.**

**Спадзяёмся, што наш крок будзе з разуменнем успрыняты ўсімі, каму дарагое нацыянальнае адраджэнне.**

**Рэдакцыя.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

«ЗВЯЗДА» Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

«ЗВЯЗДА»

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 23 ДНІ. ПАДПІСНАЯ ЦАНА «ЗВЯЗДЫ» НА ПАЎГОДА—120 РУБЛЁЎ.**

